цуская рэспубліка лёгка можэ апынуцца ў такім-жэ палажэньні, у якім апынулася расейская...

## Што рабіць?

Да ўсіх трагедзій Беларускага народу прылучылася цяпер новая. Гэта—разьдзел Беларусі на дзьве часьці лініей Берасцейскае умовы.

Праўда, німа такой пастановы, каторая не магла-бы быць зьмененай. І Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на гістарычным заседаньні 25 марца, апавешчаючы незалежнасць Беларусі, пастанавіла зьвярнуцца да дзержаў, падпісаўшых мірную ўмову ў Бярэсьці, с прэдлажэньнем перэглядзець тую часць умовы, якая датычэ Беларусі.

Цяпер увесь Беларускі народ с трывогай і надзеяй жджэ весткі аб тым, як будзе разьвязано пытаньне аб перэглядзе Берасцейскай умовы. Што прынясець нам будучына: ці злучыць яна ў вадну сям'ю ўсе дзесяць мільёнаў на іх роднай зямлі, — ці раздзел зроблены вайной, будзе трываць і на далей?..

Дні мінаюць за днямі, месяцы — за месяцамі, а разбязкі ўсё яшчэ німа, і нет ведама, калі яна прыйдзе. Няпэўнасць заўтрашняга дня — гэта найгоршы вораг уселякага жывога дзела. І тое палажэньне, ў якім апынуліся беларусы ў межах старой акупацііі, шмат у каго адбірае ахвоту да працы, забівае энэргію і веру ў карысць якой-колечы палітычнае работы. Гэтак сядзём мы, апусьціўшы рукі, і ўсё спадзяёмся, што ратунак нам прынясуць менчукі.

Ці правільно гэткае становішчэ? Ці запраўды для нас ужо німа ніякага грунту дзеля палітычнае работы?

Не, Работа ёсць і для нас, і работа гэтая вось у чым.

Беларусам прыходзіцца тут, у межах окупаціі, напружаць усе свае сілы ў барацьбе с тымі, хто здаўна цікуе на згубу беларускага народу. Нам прыходзіцца бароцца з двайным гвалтам над намі палякоў — гвалтам матэрыяльным, экономічным, і гвалтам духовым на грунце культурна-нацыянальным і рэлігійным. Дзеля нацыянальнае самаабароны мы павінны організаваць свае сілы на кожным грунці, а тым болей на грунці лаџжэньня тымчасовага ўпраўленьня нашым краем.

Другая задача, дзеля каторай мы павінны цяпер працаваць з усіх сіл сваіх, гэта абарона нашай заходняй граніцы ад палякоў, абарона ад польскіх апэтытаў нашае Беласточчыны, Бельшчыны, Горадненшчыны. Аб гэтым мы ўжо даволі пісалі, і цяпер німа патрэбы шмат тут гаварыць.

Урэшці, ёсць і трэйцяя задача. Там, за лініей Берасцейскага міра, ужо пачалася творчая гасударственая работа беларускага народу, будаваньне незалежнасьці Беларусі. Тут, з гэтага боку гэнае лініі, дагэтуль усё спало, бо варункі нашага жыцьця не давалі магчымасьці пачаць будаваньне сваей дзержаўнасьці. І калі цяпер адкрываецца перад намі магчымасць такой працы, хоць і на грунці незалежнасьці так-званай „малой Літвы", дык мы не павінны сядзець, злажыўшы рукі: памятаючы, што беларусы ў межах старой нямецкай окупаціі — гэта *народ тэрыторыяльны*, што яны занімаюць тут свой асобны абшар (усю Горадненшчыну і безмала ўсю Віленшчыну), мы павінны на сваей палавіне „малой Літвы" будаваць пачатак свае ўласнае гасударственнасьці, каб у прыпадку шчасьлівай разьвязкі пытаньня аб перэглядзе Берасьцейскае умовы і злучэньня ў тэй ці іншай форме ўсіх беларускіх зямель мы на гэты бок фронту былі так сама прыгатаваны да самабытнага, незалежнага гасударственага жыцьця, як нашы браты-беларусы з-за фронту і нашы суседзі у старой окупаціі, літвіны.

Работа для нас ёэць, ды яе — немала. Мы павінны толькі не губляць агульна-беларускай пуцяводнай зоркі: незалежнасьці ўсіх Беларускіх зямель, — і раней ці пазьней яна давядзе нас, куды трэба.

Грэх, вялікі грэх марнаваць час у бязчыннасьці.

*Х. Х.*

## Уражэньні с падарожы

*(пехатой па краю).*

Закінуўшы клунак з ботамі на плечы, у белай „мужыцкай" кашулі і такіх жэ палатняных портках, іду ўпярод. Вострая Брама ўжо асталася далёка за мной, ужо перада мною разьвярнуўся шырокай дарогай Лідзкі гасьцінец, у мой твар ужо дунуў вецер с шырокага поля, над галавой у вышы пяюць песьні свае невідочные жаваранкі...

Наперакор звычаю пачынаць падарожу раніцай, я выходжу з места пад вечар. Ужо мала асталося да захаду сонца, можэ 2—3 гадзіны. Заўтра Зялёные Сьвяты. На гасьцінцу рух незвычайны. Ідуць і едуць у Вільню акалічные селяне. Бабы нясуць на плячох нейкіе клуначкі. У многіх руках пабачыш зялёные галіны бярозы ці інш. Захад сонца будзе пекны, ясны. Неба без хмар. У паветры чуваць перад - сьвяточнае настраеньне. Усё, як калісь, як даўней. На момэнт забываеш, што йшчэ вайна, што нейдзе грымяць стрэлы, што „іншые часы..."

На гасьцінцы ціш. Сонцэ ўжо прыбліжаецца да небасхілу. Старые бярозы наабапал дарогі ціха плачуць сваімі абвісшымі галінамі. Мяккі, нагрэты сонцэм праз увесь дзень пясок прыемна ласкочэць босые ногі.

З боку Вільні чуваць трэск матора: гэта па сіняй вышы неба роўна плыве „Taube". За ім, бытцым у дагонку, выляцеў другі; хутка паказаўся і трэйці. Праляцелі, чэзнуць. Толькі ў цішы вечара чуваць яшчэ трэск матораў „спацыруючых" аэропляна ў.

Хітрая лятучая машына зварочывае думкі да цяперачыны... Думкі плывуць тые-ж самые, як што дзень, аднальковые ажно да нуднасьці, невясёлые, ах, невясёлые!..

---

Летась так сама здаралося мне не раз хадзіць пехатой па ваколіцах Вільні, ды толькі ў іншым, чымсі цяпер, касьцюме: тады я быў апрануты „па мястоваму", ў ботах, у мяккім на галаве капялюшы. І кожын раз, як мне прыходзілося звертацца па беларуску да селян, ці пытаючыся аб дарогу, ці з іншым пытаньнем, рэдка я пачуў адказ у гэтай жэ самай беларускай мове. Цікаўна! Каму можэ здаецца, што мяне не разумелі. Барані Бог! Я добра чуў, як перад тым людзі гаварылі між сабой па беларуску. А мне дык адказывалі па польску або па расейску. Я разумею псыхалёгію тых і другіх. У адных—так мала пачуцьця нацыянальнай гордасьці, што ім мая беларуская гутарка здавалася не сур'ёзнай, на жарт, бытцым кпінкамі з іх „простай" мовы, і, хочучы паказаць, што яны сьцямілі тон маей над імі „вышэйшасьці", адказывалі мне па польску, думаючы ў душы: „вось мы не такіе дурные, як тэбе здаецца; мы патрапім і па польску..." Іншые, менеймхітра разважаючы, думалі так: „гэта ён, мусіць, кажэ па расейску, ды мы кепска пачулі; бо скуль-жэ гэты мястовы ўмеў-бы „па мужыцку?"—і адказывалі мне па расейску. Здаралося мне пачынаць с тымі і іншымі даўжэйшую гутарку. Я хацеў выясьніць недаразуменьне. Я прасіў, каб гаварылі са мной так, як гавораць паміж сабой, — па беларуску. „Ня хцэся янзыка ламаць"—адказывалі мне, не прызнаваючыся да сваей мовы...

Беларусь! даруй ім, бо яны ня ведаюць, што гавораць!..

Цяпер мая кашуля с шэрага палатна і босые ногі палегчаюць мне зносіны с селянамі. На трэйцяй, чацьвёртай вярсьце ад Вільні я магу ужо разгаварыцца па беларуску, мне ўжо кажуць не „пан", а „вы", бо прыймаюць за чэлавека свайго стану...

Іду далей. У далі відаць чырвоны мураваны касьцёл у мястэчку Т. Іду туды, каб пабываць у недаўна адчыніўшайся беларускай школе. Мястэчка з вялікшых. Некалькі вуліц. Кожная мае свой назоў. Пытаюся аб школу. Мястэчковые людзі кажуць мне, што аб беларускай школе нічога ня ведаюць. Пытаюся далей: „гдзе беларуская школа?" Адказываюць: „Ды ў нас німа ніякай школы, можэ с часам будзе якая: ці руская, ці іншая, —пакуль што німа..."

Па вачох чытаю, што маняць. Не магу сьцяміць, што гэта значыць. Падазрэньне, каторае праляцело праз маю галаву, як маланка, я проч адкінуў...

Школу я знайшоў. Праўда, не ў самым мястэчку, а 2 вярсты за мястэчкам. Седзючы ў аднэй селянскай хаце ў падмястэчковай вёсцы, я расказываў аб труднасьці знайсьці школу і пытаўся, як гэта растлумачыць.

Мне тут многа расказалі *цікаўных* спраў... Верыць ня хочэцца, а мусіш верыць...

Цяпер мне прыпомнілася гутарка, якую я меў недаўна з адным з віленскіх палякоў (яшчэ не зусім добра абзнаёмленым с тутэйшымі стасункамі). Я яму казаў аб проці-беларускай агітацііі па вёсках і мястэчках, каторую вядуць асобы, маючые, дзякуючы свайму становішчу або матэр'яльнай пазыцыі, ўплыў на суседніх селян. Я асабліва націск клаў на перашкоды, робленые баларусам у іх школьнай, асьветовай працы. Я пазываўся на прыклад мястэчка М., гдзе, дзякуючы нягоднай агітацыі гэткіх людзей, прымушэна была закрыцца беларуская школа. Мне на гэта адказаў гутарыўшый са мной паляк: — Ну, вось!.. Знайшоўся недзе якійсь адзін дурэнь —і з гэтага рабіць агульнае правіла!.. —

Трэба ж здарэньня, што на другі дзень маей падарожы мне якраз прышлося спаткацца з рабо-

## Мой родны край!..

Мой родны Край! Старонка сумная! —
За што Цябе любіць?—калі б спытаўся хто,—
што адказаць,—ня ведаў сам бы я,—
скуль гэтая любоў? дзеля чаго? за што?..
— — — — — — — — — — —
Каменьне вострае крывава раніць ногі,
дрыжыць ў паветры плач старых бяроз... —
Хаця мне жудасна, ня зыйду я з дарогі,
ня кіну край, гдзе я радзіўся, рос... —
— — — — — — — — — — —
Старонка родная! на што Цябе любіці
і на ахвяру ўсё жыцьцё Табе даваць?
Ці ж не лягчей пад іншым небам жыці,
забыць Цябе, пакінуць, родна Маць?..
— — — — — — — — — — —
Там гдзесь сады цьвітуць без мала праз
год цэлы,
там неба сіняе, німашака там хмар,
людзкіе тамака здароўем дышуць целы
і абыймае дух мастацтва дзіўны, чар...

Там Вінчі, Рафаэль, Анжэльлё, Тыцыан,
глядзяць памятнікі там горда ў неба вып;—
у нас — забыты ў полі гдзесь курган
ды ля дарогі дрэмле стары падгніўшы
крыж...—
— — — — — — — — — — —
Твой, Беларусь, пачаўся *Renaissance* цяпер!
Хто ведае, што творыць Твой народ?!..
Хоць красак тут не шмат, хоць край, як
доля, шэр,—
зварухнуўшыся раз, дух пойдзе ўсё ўпярод...

І хоць з-за аблакоў пахмурна сьвеціць сонцэ,
і шчасьця-радасьці ня знойдзеш тут нідзе,—
загляне Доля йшчэ і ў нашаеваконцэ,
і Кветка-Папараць яшчэ нам зацьвіце!..

*Я. Монвід.*

---

*Францішк Олехновіч.*

## На Антокалі.

п'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман" № 43).

АНУФРЫ (да Юзюка).

Ну што ж, пан Язэп, якжэ ж там мае падноскі?

ЮЗЮК.

А ўжо робяцца.

АНУФРЫ.

Толькі, каб было моцна.

ЮЗЮК.

Як жалеза.

АНУФРЫ.

Хай будзе, як скура, і то добра, каб толькі не папера. Вось гэтые (паказывае нагу) ў адзін тыдзень рэзсыпаліся. Гэта добра для тых, што па салёнах ходзяць, — а для мяне трэба, каб моцна.

ЮЗЮК.

Панок ходзіць неасьцярожна.

АНУФРЫ.

Што ж гэта я па гарачых вуглёх хаджу, а не па зямлі, каб меў быць асьцярожны!.. А на абсацы трэба набіваць многа цьвякоў, каб было мацней.

ЮЗЮК.

Цяпер зраблю так, што панок не зносіць ботаў да самай сьмерці.

АНУФРЫ.

Пэўне спадзеваецеся хутка маей сьмерці, калі так кажэце! (Да Міхаліны): Мы ўжо парахуемся с панечкай... там ад пані мне крыху належыцца за мяса.

МІХАЛІНА.

А добра, добра! Перэпрашаю, што так доўга не аддавала, але сягоньня разлічымся напэўна, як толькі „мой" вернецца з места. Пайшоў аддаць работу.

АНУФРЫ.

Добра, добра! я так толькі прыпомніў. Трэба жыць, як браты, а рахавацца як жыды, як той казаў.

